

Пазнаёмцеся: член брыгады камуністычнай працы, мантажніца Мінскага радыёзавода Галіна Клімава. Калі ў вашай кватэры стаіць радыёла «Беларусь-59» і вечарамі ў пакоі чуюцца гукі музыкі, успомніце добрым словам і Галіну. Яна вельмі старалася прынесці ў ваш дом радасць.

Фота А. УСЦІНАВА.

Думкі аб эстэтычным выхаванні

# ДАЧКА ПРЫНЕСЛА ПАДАРУНАК...

Алег СУРСКІ

На свята Таня, як заўсёды, прынесла маме падарунак — на гэты раз кардонную шкатулку ў выглядзе сэрца, абклееную кветачкамі з паштовак. Таня — трэцякласніца і каштоўнасць яе падарунка ў тым, што яна зрабіла яго сама — у школе на ўроку ручной працы пад кіраўніцтвам настаўніцы. У Тані вочкі блішчалі ад гонару, а маме было крыўдна і за Таню і за яе настаўніцу, і яна нетактоўна заўважыла штосьці пра дрэнны густ.

Але Таня адпарыравала:

— А настаўніца сказала!..

Аўтарытэт настаўніцы непахісны, пярэчыць яму не варта. Але спрачацца трэба! Не з Таняй, вядома, і нават не з настаўніцай. Спрачацца трэба шырэй — аб выхаванні густу ў школе, дома, на вуліцы, аб тым, як важна ўжо з малых год выхоўваць у дзяцей пачуццё прыгожага, уменне адрозніваць сапраўднае мастацтва ад падробкі, вучыць іх, што нельга праходзіць міма пошласці і мяшчанства нават у самых, на першы погляд, нязначных праявах.

Вучаніца трэцяга класа зрабіла пад кіраўніцтвам настаўніцы пошленькую рэч. Здавалася б, гэта дробязь, прыватны выпадак. Магчыма, не вельмі вінавата тут і настаўніца, якую ў інстытуце не навучылі разумець прыгажосць. Проста яна, відаць, даверылася якому-небудзь дапаможніку па ручной працы. Ёсць такія дапаможнікі — па вышыўцы, выпілоўванню, выпальванню па дрэву. Там дадзены ўзоры розных рамак і шкатулак у стылі «ракако» або карцін Шышкіна для вышывання балгарскім крыжыкам. А іх складаюць спецыялісты, зацвярджаюць мастацкія саветы, паважаныя выдавецтвы (у тым ліку і нашы беларускія) выдаюць, а гандлёвыя арганізацыі распаўсюджваюць. Пошласць ідзе ў жыццё ў якасці дапаможніка, ідзе вялікім тыражом. Гэта ўжо не прыватны выпадак!

І тым не менш, як часта праходзіць у нас міма падобных рэчаў, лічачы іх дробязямі.

Узяць, напрыклад, чыста вонкавае адлюстраванне ўсіх тых мерапрыемстваў, якія праводзяцца ў школах як па лініі так званай пазакласнай работы — заняткі ў розных гуртках мастацкай і тэхнічнай творчасці, зборы гербарыяў, вывучэнне гісторыі роднага краю і г. д., так і па лініі работы піянерскіх і камсамольскіх арганізацый.

Лепш ці горш вядзецца гэтая работа, але паказваць яе любяць шырока. У калідорах, залах, класах заўсёды мноства стэндаў, вітрын, плакатаў і насценгазет, каб кожны, хто ўваходзіць у школу, бачыў, так сказаць, на што тут здатны. У школе, дзе вучыцца Таня, падобныя вітрыны — слабасць самога дырэктара, і справа тут пастаўлена на шырокую нагу. Усё ў пазалочаным багеце, масіўныя пастаменты, абклееныя арэхавай фанерай і густа палакіраваныя. Гэтая купецкая напышчанасць — вынік намаганняў дзяцей і школьнага сталяра, які вядзе са старшакласнікамі заняткі па сталярнай справе. Як убога выглядае ўсё гэта побач з мілымі дзіцячымі малюнкамі, звяркамі з пластыліну і засушаным кляновым лісцем, з дзённікамі піянерскіх паходаў, якія з любоўю і наіўнасцю рабілі самі дзеці без якога б там ні было кіраўніцтва!

Эстэтычны густ не даецца чалавеку ад нараджэння. Ён выхоўваецца на працягу ўсяго жыцця, пачынаючы ад уздзеяння на нас звыклых рэчаў быту і канчаючы знаёмствам з вялікімі каштоўнасцямі культуры і мастацтва. Тут аднолькава важна і тое, як выкладаецца ў школе літаратура і мастацтва, і тое, што даведваюцца вучні пра жывапіс і музыку, і, наогул, усё, што фарміруе густ па-за навучальнымі праграмамі. Дзяцей павінны акружаць сучасныя светлыя і радасныя інтэр'еры класаў, дзе рэчы выконвалі б не толькі практычныя функцыі, але і вучылі дзяцей любіць прыгожае.

Сучасная школьная гігіена і эстэтыка даюць вельмі добрыя навукова абгрунтаваныя рэкамендацыі наконт гэтага. Іх можна пачуць на лекцыях, прачытаць у артыкулах, імі кіруюцца архітэктары і мастакі, ствараючы новыя праекты школ.

І ўсё ж бывае яшчэ ў школах казённая, няўтульная абстаноўка. Дзіўна, але дзеці нашы сядзяць за такімі ж грувасткімі, нязручнымі і змрочнымі партамі, за якімі сядзелі мы самі, нашы бацькі і нават дзяды. Чорныя дошкі, невыразнага бруднага колеру сцены, цёмна-карычневая падлога. І непрыгожа, і негігіенічна. А даўно ж існуюць новыя канструкцыі парт — лёгкіх, зручных, у якіх можна рэгуляваць вышыню і нахіл дошкі стала, што вельмі важна для правільнай паставы вучня. Пакрытыя светлымі, прыемнага адцення пластыкамі ці эмалямі, яны прыемна глядзяцца, гігіенічныя. Светлым лідэрынам — недарагім, але трывалым і прыгожым матэрыялам — павінна пакрывацца ў школах падлога. Такая падлога лёгка мыецца, стварае адчуванне прасторы. А дошкі — чаму яны павінны быць традыцыйна чорныя? Таму што на іх пішуць крэйдаю? Але ж можна пісаць і каляровымі грыфелямі на дошках, пафарбаваных у крэмавы ці салатавы колеры. Гэта зберагло б здароўе дзяцей, бо некалькі гадзін у дзень глядзець на белыя літары на чорным фоне — шкодна для вачэй. Пра гэта даўно гавораць урачы.

І ў новых школах Масквы, Ленінграда і іншых гарадоў чорных класных дошак усё менш. Але якія трывалыя яшчэ часам дрэнныя традыцыі, як заядае часта людзей казёншчына!

Здавалася б, таксама дробязь—у 65-й школе горада Мінска класны кіраўнік адправіла дадому другакласніка, які прыйшоў у берэце і кароценькіх штоніках.

— У доўгіх штанах улетку горача, — тлумачылі ёй бацькі. — Ды кароценькія штонікі на хлопчыку прыгажэй выглядаюць, чым доўгія штаны. І берэт прыгажэйшы і зручнейшы за шапку.

Але настаўніца была непахісная.

— У берэтах ходзяць стылягі, — сцвярджала яна. — І ўвогуле гэта не салідна: школа, усё ж такі — установа!

Другакласнік павінен выглядаць салідна! У чыноўніцкай шапцы, мышынага колеру штанах і гімнасцёрцы з бляхаю на папружцы!

Прычым, так разважаюць і ў 4-й школе горада Мінска і ў многіх іншых. Але ж дзіўна: берэт і кароткія штаны — гэта ж новая школьная форма, яна зацверджана Міністэрствам асветы, выпускаецца швейнымі фабрыкамі і прадаецца ў магазінах. Ды што зробіш, калі дрэнныя густы перамагаюць...

Не трэба забываць, што эстэтычнае ўздзеянне абстаноўкі часам не ўсведамляецца чалавекам, але яно тым не менш адбываецца сістэматычна і няспынна і прыносіць, урэшце, вельмі адчувальныя вынікі. Пачынаецца з пошлых рэчаў, казёншчыны, безгустоўнасці ў быце, а канчаецца часам духоўнай збедненасцю, эстэтычнай непісьменнасцю, мастацкай глухатою.

Нядаўна, у час прыезду ў Мінск удзельніцы конкурсу імя Чайкоўскага Крысціян Бійё, класны кіраўнік адной з школ прапанавала сваім выхаванцам — дзесяцікласнікам — схадзіць разам на канцэрт. І як ні паважалі вучні свайго педагога, як ні даражылі дружбаю з ёю (сапраўднай добрай дружбаю, якая нарадзілася ў спрэчках аб мастацтве, у гутарках аб літаратуры, у сумесных паходах на лыжах), вучні здзіўлена паціскалі плячыма і шчыра сумняваліся, ці будзе гэта цікава. А ў чарговай гарачай спрэчцы, што ўзнікла ў сувязі з гэтым, у спрэчцы аб музыцы, высветлілася, што дзесяцікласнікі, увогуле разумныя, развітыя хлопцы і дзяўчаты, зусім не любяць і не разумеюць класічнай музыкі.

«Мы захапляемся джазам, сучаснай рытмічнай музыкай, — сказаў адзін з іх,—а тыя, хто ходзіць на сімфанічныя канцэрты, проста прыкідваюцца, што ім цікава».

Што гэта — невуцтва, душэўная пустата ці проста нейкая юнацкая фронда, свайго роду арыгінальнічанне? На жаль, і тое і другое. І калі гаварыць пра эстэтычнае выхаванне ў школе, дык, вядома, пытанне трэба ставіць шырэй.

Узяць тую ж музыку. Хто і як яе выкладае вучням? Да трэцяга класа — тая ж настаўніца, якая вядзе і асноўныя прадметы. Яна развучвае з дзецьмі песенькі. Потым у IV—V класах ужо настаўнік спеваў вывучае нотную грамату, закладвае асновы музычных ведаў. Усё гэта вельмі добра, раней і гэтага не рабілі. Але што ж далей? Хто і як вучыць школьнікаў разумець музыку, выхоўвае ў іх любоў да яе, як да цудоўнага мастацтва, што робіць чалавека высакародным і духоўна багатым? На жаль, у большасці выпадкаў — ніхто. У старэйшых класах, іменна тады, калі пачынаецца свядомае стаўленне да мастацтва, музыку наогул не выкладаюць. Пазакласныя ж заняткі ў гуртках спеваў і танцаў, як правіла, не даюць належных вынікаў, бо праводзяцца нецікава, сумна. Школьнікі з большай ахвотай вучацца на танцпляцоўках, прытым сучасным, а не бальным танцам.

Сістэматычнае наведванне сімфанічных канцэртаў, праслухоўванне праграмнай музыкі ў суправаджэнні цікавых лекцый, у тым ліку і сучаснай музыкі, і нават рытмічнай, пра якую гаварылася вышэй (а яе зусім не трэба баяцца!), — не стала абавязковым у школах. Нават школьныя фанатэкі з запісамі лепшых узораў музыкі — рэдкасць. А як бы натуральна гучала, напрыклад: «Сёння ў нас на ўроку — праслухоўванне твораў Баха, Грыга ці Чайкоўскага».

Яшчэ горшыя адносіны да выяўленчага мастацтва. Праўда, у школьнай праграме ёсць прадмет — маляванне. Тыя ж настаўнікі малодшых класаў выкладаюць дзецям гэтае маляванне, хоць не маюць спецыяльнай адукацыі. Але справа не толькі ў адукацыі. Ва ўзросце да дзесяці год дзеці часам большыя мастакі, чым дарослыя. Гэта мастакі-фантазёры, і галоўная прыгажосць іх мастацтва ў вынаходлівасці, бязмежнай выдумцы і мілай наіўнасці, з якімі яны адлюстроўваюць навакольны свет. Задача педагогаў—развіць у іх гэтае ўменне фантазіраваць і тварыць, а не вучыць іх правілам малявання. Апошняе спатрэбіцца пазней.

Але настаўніца вучыць правілам: так малюецца яблыка, так — дом, так — кветка. І нават

(Заканчэнне на 4-й стар.).

## ПЯТНАЦЦАЦЬ ТАМОЎ ПЕСЕНЬ

Фалькларысты Літоўскай ССР рыхтуюць да выдання 15 тамоў народных песень. У архіве Інстытута літоўскай мовы і літаратуры захоўваецца каля 600 тысяч песень, казак, паданняў, прыказак і анекдотаў. Архіў з кожным днём папаўняецца. Вялікую дапамогу фалькларыстам па збору народных скарбаў аказваюць настаўнікі і студэнты, пісьменнікі і журналісты.

Песні літоўскага народа маюць вялікую і цікавую гісторыю. Адным з першых звярнуў на іх увагу беларускі летапісец Нестар. Літоўскімі дайнамі цікавіліся вучоныя многіх краін свету. «Які наіўны жарт! Што за наіўная прастата!» — усклікнуў Лесінг, пазнаёміўшыся з дайнамі ў літоўскім слоўніку Філіпа Руіка. Вядомы збіральнік народных песень Ёган Готфрыд Гердэр узяў з Руіка некалькі дайнаў для свайго зборніка «Галасы народаў у песнях» (1828. Штутгарт).

Вялікую работу па збору і вывучэнню народных песень правялі літоўскія фалькларысты Л. Рэза, С. Станявічус, браты Юшка. У 1825 годзе выйшлі з друку «Літоўскія народныя песні» Л. Рэза, у 1829 годзе — «Зборнік народных песень» С. Станявічуса, затым пяцітомны збор народных песень братоў Юшка (выдаваўся Казанскім універсітэтам і Расійскай акадэміяй навук). Гэтыя зборнікі выдаваліся і ў Савецкай Літве. У канцы пяцідзесятых гадоў Інстытут мовы і літаратуры Акадэміі навук Літоўскай ССР выдаў новы фальклорны зборнік, пабудаваны на запісах 1944 — 1956 гадоў.

І вось цяпер нашы суседзі прыступаюць да выдання 15-томнага зборніка народных песень. Гэтае багатае выданне будзе мець несумненную цікавасць і для нашых фалькларыстаў і гісторыкаў, для ўсіх тых, хто цікавіцца музычнай і паэтычнай культурай свайго народа.

В. СКІДАН.

## Вечар, прысвечаны песняру

«Беларусь мая» — так называўся чарговы літаратурна-музычны вечар, праведзены магілёўскім клубам творчай інтэлігенцыі. Вечар быў прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы. З дакладам аб жыцці і творчым шляху вялікага беларускага песняра выступіла выкладчыца Магілёўскага педагагічнага інстытута, кандыдат філалагічных навук М. Яфімава. Затым адбыўся канцэрт мастацкай самадзейнасці, праграма якога складалася з твораў Янкі Купалы.

# МЕЦЬ АДЗІНЫ НАВУЧАЛЬНЫ ПЛАН

Універсітэт культуры працуе ў нашым раёне ўжо трэці год. Цікавасць да яго вялікая. Штогод у аддзяленне Таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў паступаюць сотні заяў ад працоўных раённага цэнтра і бліжэйшых вёсак з просьбай залічыць іх слухачамі. Ва універсітэце цяпер займаецца каля 400 чалавек.

Працуе універсітэт культуры і на шклозаводзе «Нёман». Заняткі тут наведваюць больш 200 чалавек.

Сёлета перад слухачамі універсітэтаў выступілі лектар-музыказнаўца Усесаюзнага гастрольнага аб'яднання С. Кулэ, музыказнаўца Белдзяржфілармоніі Л. Аўэрбах, кіраўнік літаратурнай часткі Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Ю. Гаўрук, рэжысёр студыі «Беларусьфільм» І. Шульман, народны артыст БССР Г. Цітовіч, старшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага мастацкага музея БССР мастацтвазнаўца Т. Сцёпіна і іншыя. Быў у нас Тэатр імя Янкі Купалы са спектаклем «Лявоніха на арбіце». Гродзенскі драматычны тэатр паставіў дзве п'есы «Ад шчодрасці сэрца» і «Справа яе жыцця». Выступалі перад слухачамі артысты Белдзяржфілармоніі, Ансамбля песні і танца БССР.

Выступленні вопытных лектараў, майстроў мастацтва, удзельнікаў драмкалектываў пашыраюць культурны кругагляд слухачоў універсітэтаў, павышаюць іх эстэтычныя веды.

Але мне хацелася б не столькі гаварыць пра станоўчыя бакі ў рабоце універсітэта культуры, колькі пра недахопы і патрэбы.

Стварэнне народных універсітэтаў культуры — справа добрая. І ўсе яе ўхваляюць. Але мала хто праявіў клопатаў, каб гэтая, народжаная творчасцю мас форма, як мага больш поўна і мэтанакіравана выкарыстоўвалася ў камуністычным выхаванні працоўных.

Узяць хоць бы пытанне планавання, складання навучальных планаў. У рэспубліцы больш трохсот універсітэтаў. У адных месцах яны аднагадовыя, у другіх — двухгадовыя, а ёсць і трохгадовыя. Праграма складаецца на месцах адвольна, тэмы падбіраюцца з розных крыніц. Пры гэтым цяжка ўлічыць, што запланаваць для першага года навучання, што для другога.

Універсітэты культуры — справа новая. Вопыту складання навучальных планаў мы яшчэ не маем, і куды лепш было б, каб навучальныя планы, хоць бы прыкладныя, прысылаліся нам з якога-небудзь аднаго цэнтра, скажам, з Міністэрства культуры БССР ці з рэспубліканскага Таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў.

Неабходнасць гэтага пацвярджаецца і іншай акалічнасцю. Па планах, якія мы самі на месцах складаем, нам іншы раз цяжка падабраць лектара і яшчэ больш цяжка дамагчыся мастацкага суправаджэння, якое б падмацоўвала лекцыю (маецца на ўвазе спектакль, выступленне артыстаў і г.д.) Звоніш у Белдзяржфілармонію, адтуль адказваюць: «Канцэрт можам даць, а лектара на гэтую тэму ў нас няма». Прыкладна такі ж адказ атрымліваем ад абласных і рэспубліканскіх тэатраў.

Трэба сказаць, што і Белдзяржфілармонія і тэатры вельмі неахвотна адгукаюцца на нашы запрашэнні. У раённы цэнтр, у сельскую мясцовасць яны прыязджаюць толькі пасля таго, як звернешся ў Міністэрства культуры ці ў партыйныя органы. А хто ж, як не майстры сцэны павінны памагаць працаўнікам вёскі павышаць свой культурны ўзровень?

Белдзяржфілармонія іншы раз прысылае брыгаду артыстаў з лекцыяй-канцэртам. Але пры гэтым зусім не ўлічваюцца нашы запатрабаванні. Ні з таго, ні з сяго, нават не пытаючыся ў нас, прыязджае ў Навагрудак група артыстаў Белдзяржфілармоніі з лекцыяй-канцэртам «Італьянская і французская опера». Такой тэмы ў нашым навучальным плане не было. Такім жа чынам выйшла і з тэмай «Савецкая опера». Таксама атрымалася і з лекцыяй па выяўленчаму мастацтву. У нашым плане была тэма «Як навучыцца чытаць карціну?», а да нас Дзяржаўны мастацкі музей БССР прыслаў лектара з тэмай: «Рускае выяўленчае мастацтва XVIII стагоддзя».

Праўда, і лекцыі-канцэрты Белдзяржфілармоніі і лекцыі аб выяўленчым мастацтве прайшлі на высокім узроўні і з вялікім поспехам, але наш навучальны план яны ўсё ж парушылі.

І таму, нам думаецца, што планы павінны быць адзіныя. Па іх і трэба рыхтаваць лекцыі-канцэрты, выступленні тэатраў, мастацтвазнаўцаў і накіроўваць іх у раённыя цэнтры, вёскі, рабочыя пасёлкі.

Хацелася б, каб Міністэрства культуры БССР практыкавала правядзенне ў раённых цэнтрах выставак работ мастакоў, наладжвала творчыя справаздачы тэатральных калектываў, работнікаў кінастудыі.

Не павярнуліся яшчэ тварам да народных універсітэтаў культуры пісьменнікі. У нашых універсітэтах яны рэдкія госці. А мы вельмі б хацелі сустракацца не толькі з іх кнігамі, але і з тымі, хто піша іх.

І яшчэ адно невялікае пытанне. Слухачы універсітэтаў культуры выказваюцца за тое, каб ім, пасля заканчэння другога года навучання, давалі на рукі які-небудзь дакумент. Нам думаецца, што да гэтага патрабавання варта прыслухацца.

Ш. ЗАГОРСКІ.

г. Навагрудак.

## У нашым сельскім

У гэты дзень на афішах, што віселі ва ўсіх канцах вёскі Залессе, значылася: «Сёння ў сельскім Доме культуры чарговы вусны часопіс «Космас становіцца блізкім».

Да гэтага часу актывісты сельскага Дома культуры і мясцовыя мастакі В. Котаў, Ул. Паберскі ў глядзельнай зале аформілі мантаж «Шлях у космас адкрыты», «Савецкая навука і тэхніка — самая перадавая ў свеце». Бібліятэкарка І. Канапацкая падрыхтавала кніжную выстаўку і бібліяграфічны агляд на тэму «Навука аб будове Сусвету», «Навука і рэлігія аб свеце, у якім мы жывём», а таксама прыгожа аформленыя плакаты аб палёце Юрыя Гагарына і Германа Цітова ў космас.

Першую старонку часопіса «Савецкі чалавек у космасе» прачытаў выкладчык фізікі Смаргонскай сярэдняй школы Л. Радзішэўскі, другую — «Ці магчымы палёт да другіх планет?» — загадчык навучальнай часткі гэтай школы Г. Сідаровіч і трэцюю—«Космас і рэлігія» — інспектар райана В. Крэмез. У заключэнне прысутным быў паказаны навукова-папулярны кінафільм «Першы рэйс да зорак».

Не першы раз мы праводзім такія вечары. Да іх старанна рыхтуемся: па тэме часопіса падбіраем патрэбныя кінафільмы, арганізоўваем кніжную выстаўку і бібліяграфічны агляд, рыхтуем ілюстраваныя плакаты.

Ул. СУРМАЧ,
дырэктар Залескага сельскага Дома культуры.
Смаргонскі раён.



У гэтыя дні ў майстэрнях Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута кіпіць напружаная праца. Студэнты жывапіснага аддзялення заканчваюць для інстытуцкага прагляду свае курсавыя работы — кампазіцыі, карціны, пейзажы.

Фотакарэспандэнт В. Бараноўскі, які наведаў майстэрню інстытута, зняў студэнта-трэцякурсніка В. Цюрына ў час яго работы над жанравай кампазіцыяй «Абедзенны перапынак».

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

# НАСТРОЙВАЮЧЫСЯ

З. Азгур уступіў у палеміку з А. Кучарам па пытаннях аб праве мастака гаварыць пра чалавечыя слабасці свайго героя. Гэта, гаворыць прамоўца, зноў-такі можа прывесці да схемы ў абмалёўцы характару сучасніка: трошкі відушчы, на столькі ж невідушчы ці да т. п. Мы павінны арыентаваць гледача на лепшыя пачуцці, выказаныя героямі, бо нам вельмі дарагія тыя, пра каго Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў сказаў, што яны — маякі нашага часу. Трэба змагацца супраць усяго заганнага, аджылага, што перашкаджае руху наперад і гэтак жа палымяна ўслаўляць сілу прыгожага, перадавога.

У заключэнне сваёй прамовы З. Азгур спыніўся на ролі мастака-дэкаратара ў тэатры. Ён адзначыў тры плыні ў тэатральна-дэкарацыйным мастацтве: прынцып інтэр'ернага афармлення, які адыходзіць у нябыт, адкрытая пляцоўка і... умоўны трохкутнік. Спрэчкі паміж прыхільнікамі кожнага з гэтых прынцыпаў беспрадметныя, калі яны не вынікаюць з самога драматургічнага матэрыялу.

Мастакі, адзначае прамоўца, часта ідуць па лініі найменшага супраціўлення — ігнаруюць вобразнасць твора ў імя найбольш зручнай арганізацыі афармлення ў часе і прасторы (кампактнасць і змена карцін). Выступаючы супраць рэцэптаў у гэтай справе, З. Азгур адначасова выказаў незадаволенасць з прычыны адсутнасці тэарэтычна распрацаваных крытэрыяў у ацэнцы работы тэатральнага мастака. Тэорыю падмяняюць спасылкамі на выказванні таго ці іншага аўтарытэта, якія па сутнасці выяўляюць толькі яго асабісты густ. Ці не таму, — гаворыць прамоўца, — і ў Акадэміі мастацтваў, і ў творчых саюзах секцыі тэатральнага жывапісу — самыя слабыя і непрыкметныя ў параўнанні з іншымі. З. Азгур заклікаў узняць ролю мастака ў тэатры. Ён раіў аднавіць добрыя традыцыі рэжысёраў Міровіча і Рафальскага, якія на чытанне кожнай новай п'есы ў тэатры запрашалі мастакоў і скульптараў. Гэта прыносіла вялікую карысць, дапамагала нараджэнню сапраўднага адзінства рэжысёрскага і дэкарацыйнага ладу спектакля, што найбольш моцна выявілася ў такіх пастаноўках, як «Кастусь Каліноўскі», «Кар'ера таварыша Брызгаліна» і іншых.

З кароткай тэмпераментнай прамовай выступіў драматург А. Макаёнак. Ён выказаў пажаданне, каб пасля праведзенай дыскусіі газета «Літаратура і мастацтва» не пакідала асвятляць жыццё вялікай арміі працаўнікоў тэатра і працягвала размову па праблемных пытаннях тэатральнага мастацтва. Трэба таксама больш пісаць пра творчасць акцёраў, друкаваць нарысы і творчыя партрэты.

— У нашых газетах, — гаворыць А. Макаёнак, — наглядаецца хваравітае захапленне футболам і нейкая абыякавасць да мастацтва. Рэдка змяшчаюцца рэцэнзіі на спектаклі, а тое, што друкуецца, часцей за ўсё бывае напісана вельмі ўжо заштампаванай мовай.

А. Макаёнак гаварыў аб тым, што драматургі і крытыкі, вырашаючы праблему героя нашага часу, павінны ўлічваць складанасць чалавечага характару, які не змяшчаецца ў схематычных паняццях. Мне асабіста, калі я саджуся за рабочы стол, гэтыя словы перашкаджаюць у працы.

Сваю прамову А. Макаёнак закончыў рэплікай у адрас Л. Рахленкі, які з апаскай гаварыў, нібыта існуе пагроза запаланення падмосткаў тэатра сатырычнымі і камедыйнымі творамі.

— Дай бог, каб пайшлі касякі сатырычных п'ес, — сказаў прамоўца. — З касяку лягчэй выбраць добрую п'есу. А вось калі з'яўляюцца толькі адзінкі і нават яны з цяжкасцю нараджаюцца, тады вельмі дрэнна працаваць. І калі Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў загаварыў пра сатырычны жанр, значыць у ім адчуваецца неабходнасць, бо сатыра можа быць надзейным памочнікам нашай партыі.

Народны артыст БССР Р. Качаткоў сваё выступленне прысвяціў павышэнню майстэрства ў творчых калектывах.

— Артыст, — сказаў ён, — як і шавец, павінен быць майстрам сваёй справы, і майстэрства яго трэба ацэньваць, зыходзячы з сапраўдных вынікаў, не зніжаючы патрабаванняў.

Р. Качаткоў з абурэннем выступіў супраць руціны ў тэатры, якая шкодзіць справе і дрэнна адбіваецца на выхаванні творчай змены. Адна з праяў гэтай руціны ў тым, што ў тэатрах (у тым ліку і ў Тэатры імя М. Горкага) занядбаны пытанні творчага самаўдасканалення артыстаў. Адзіная форма вучобы, якая існуе, — семінар па пытаннях бягучай палітыкі. Людзі гавораць на іх пра важныя партыйныя рашэнні, але не задумваюцца над тым, да чаго яны нас, мастакоў, абавязваюць. Ці не таму ў калектывах нямала людзей, якіх нельга выкарыстаць у рэпертуары. А яны ж атрымоўваюць немалую зарплату! Трэба выкараняць «далікатнасць» у дачыненні да такой катэгорыі людзей і ў той жа час смела падтрымліваць сапраўды творчыя індывідуальнасці, якія імкнуцца да актыўных пошукаў.

— Шмат якія з нашых няўдач, — працягвае Р. Качаткоў, —вынікаюць з таго, што кожны тэатр жыве неяк паасобку, ізалявана ад іншых. Мы мала сустракаемся, не абмяркоўваем працы адзін аднаго. Чаму б, напрыклад, не пагаварыць канкрэтна пра апошнія сталічныя прэм'еры сезона?

Р. Качаткова хвалююць некаторыя недасканаласці п'есы «Пад адным небам», якую ён лічыць увогуле таленавітым творам. Ён звярнуў увагу на тое, што аўтар не здолеў пераканаўча супрацьпаставіць яркай фігуры Барыса Мякішава сапраўдных герояў нашага часу.

Галоўны рэжысёр рэспубліканскага Тэатра юнага гледача Б. Дакутовіч далучыўся да трывогі Р. Качаткова адносна таго, што ў тэатрах за апошні час вельмі знізіліся патрабаванні да прафесіянальнага ўдасканалення акцёраў і рэжысёраў. Другая бяда тэатраў — у адсутнасці творчага адзінства ў калектыве. Шмат заўваг зрабіў Б. Дакутовіч у адрас тэатральнай крытыкі. Ён прапанаваў пашырыць кола людзей, якія прыцягваюцца да рэцэнзавання спектакляў, даручаць гэта акцёрам, мастакам і рэжысёрам.

Тэатр павінен ісці ў нагу з жыццём. Гаворачы пра гэта, Б. Дакутовіч паставіў пытанне аб тэхнічнай узброенасці тэатра. Мы нават адстаём ад сучаснага быту, сказаў ён. Нашы людзі даўно ўжо ходзяць у вопратцы з сінтэтычных матэрыялаў, а шавецкія цэхі тэатраў не маюць іх і вымушаны шукаць замяняльнікі.

Народная артыстка РСФСР В. Рэдліх сваё выступленне пачала са згоды з прапановаю Р. Качаткова адносна рэарганізацыі тэатральных труп. — Але вырашэнне гэтай праблемы, — гаворыць яна, — гэта толькі палавіна справы. Калі не будзе пастаяннай штодзённай работы з акцёрам, а таксама работы акцёра і рэжысёра над сабой, дык праз паўгода або праз два гады нам давядзецца гэтую рэарганізацыю зноў ажыццяўляць, бо з'явяцца штампы, абыякавасць і прафесіянальная дэградацыя.

— Сёлета, — гаворыць В. Рэдліх, — спаўняецца стагоддзе з дня нараджэння Канстанціна Сяргеевіча Станіслаўскага. Гэты год называюць годам Станіслаўскага. Як жа мы выкарыстоўваем яго невычэрпную спадчыну?

В. Рэдліх з горкасцю паведамляе, што за ўсё сваё творчае жыццё яна мела магчымасць паставіць толькі два спектаклі ва ўмовах, якіх патрабуе сістэма і метад вялікага рэфарматара сцэны. Яны мелі поспех і былі паказаны ў сталіцы нашай Радзімы. — Мне здаецца, — гаворыць В. Рэдліх, — што такія спектаклі (яна працавала над імі па чатыры-пяць месяцаў) трэба мець кожнаму тэатру. Гэта паможа тэатрам захаваць дух творчасці ў сваіх калектывах.

У заключэнне В. Рэдліх заклікала творчых работнікаў да дружбы і творчага ўзаемаразумення.

— Пытанні, якія мы сёння абмяркоўваем,— сказаў драматург А. Маўзон, — маюць вялізарнае значэнне не толькі для драматургіі і тэатра. Гэта — пытанні далейшага развіцця культуры народа, бо тэатр гэта адна з найбольш яскравых і найбольш дакладных візітных картак культуры народа.

— Мы павінны гаварыць толькі тую праўду, якая дапаможа нам рушыць наперад, — працягвае А. Маўзон. — Тэатр перажывае складаны перыяд. Пэўная частка нашых майстроў па шэрагу акалічнасцей пакідае сцэну. Амаль не засталося сапраўды нацыянальных рэжысёраў, якія выраслі і пасталелі ў беларускіх тэатрах. Дрэнна рыхтуецца змена. Дзесьці і штосьці раней было намі прапушчана. Ад агульных размоў пара перайсці да арганізацыйнага вырашэння ўсіх гэтых пытанняў.

Адну з прычын, якія стрымліваюць акцёрскае самаўдасканаленне, А. Маўзон бачыць у адсутнасці перспектыўных рэпертуарных планаў у нашых тэатрах. Кожны акцёр павінен ведаць, што ён будзе іграць праз год ці два, тады ён будзе загадзя рыхтаваць сябе да адказнай задачы. Перспектыўныя рэпертуарныя планы былі б дзейсным стымулам і ў справе далейшага развіцця нацыянальнай драматургіі.

А. Маўзон крытыкаваў газету «Літаратура і мастацтва» за тое, што па-за межамі сённяшняй размовы аб тэатральным мастацтве яна не ўдзяляе належнай увагі тэатру, адгукаецца на яго жыццё, толькі калі з'яўляюцца новыя спектаклі, прычым іншы раз абмяжоўваецца даволі павярхоўнымі рэцэнзіямі. — Я ніколі не бачыў у газеце, — гаворыць А. Маўзон,— артыкула сакратара партыйнай арганізацыі тэатра, старшыні мясцовага камітэта або рэжысёра.

Гаворачы далей аб крытыцы і тэатразнаўстве, прамоўца рэзка крытыкаваў сектар тэатра Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР за тое, што ён аддае перавагу вывучэнню гісторыі і занядбаў сучасныя праблемы.

Заслужаны дзеяч мастацтва БССР Г. Шчарбакоў пачаў сваё выступленне думкамі аб неабходнасці сістэматычнага папаўнення кожнага творчага калектыву новымі сіламі.

— Два геніяльныя чалавекі, — прыгадаў ён Станіслаўскага і Немiровіча-Данчанку, — якія стварылі агромністую глыбу нацыянальнай рускай культуры ў сэрцы Расіі Маскве — Мастацкі тэатр, знайшлі ў сябе грамадзянскую мужнасць на пэўным этапе развіцця МХАТ'а зразумець, што патрэбен звонку прыток свежых сіл, якія пашыраюць кругагляд тэатра. Яны гэта зрабілі. І гэта прынесла вялізарную творчую карысць калектыву.

Абнаўленне творчага складу, свежы струмень бываюць патрэбны не толькі акадэмічным, але і маладым тэатрам. Г. Шчарбакоў з абурэннем расказваў, як на спектаклі «Клоп» у рэспубліканскім Тэатры юнага гледача добра распрацаваны рэжысёрам фінал пастаноўкі быў зведзены на нішто абыякавасцю ўдзельнікаў масоўкі. Абыякавасць забівае мастацтва ў тэатры. Гэта — вялізарная і вельмі сур'ёзная праблема, якая наводзіць на глыбокі роздум.

Ацэньваючы сучасны стан тэатральнага мастацтва і спрабуючы зазірнуць у яго заўтрашні дзень, Г. Шчарбакоў сказаў:

— Наша мастацтва — мастацтва савецкага тэатра ніколі не памірала, а расло, развівалася, набывала самыя разнастайныя формы.

